Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 7—(47). Вільня, 18 лютага 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За міліметравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |


## За № 1.

Беспартыйны Блёк супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага з кожным днём здабывае сабе ўсё больш і больш прыхільнікаў. Ня толькі мяшчанства, ня толькі фабрычныя работнікі і працоўная інтэлігэнцыя, але таксама і сяляне на сваіх зьездах і сходах у паветах і гмінах выносіць пастановы аб аддачы сваіх галасоў пры выбарах у Сойм і Сэнат за кандыдатаў гэнага блёку, за сьпісак № 1.

Гэтае зьявішча мы бачым ня толькі ў межах Віленскага ваяводзтва, але на ўсім абшары Польскае дзяржавы.

Прыхільныя адносіны народных гушчаў да Ураду, прадстаўніком каторага зьяўляецца Маршалак Пілсудскі — для нас зусім зразумелы. Яны зьяўляюцца ня толькі актам веры да асобы Язэпа Пілсудскага, як вядомага барацьбіта за інтарэсы працоўнага народу і яркага прадстаўніка ідэі вызваленьня народаў, зьдзейсьненьню каторай ён аддаў усе свае сілы, але прыхільнасьць гэтая ёсьць адначасна прызнаньнем з боку народных масаў тых дасягненьняў, якія зрабіла Польская дзяржава ўва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага жыцьця праз апошнія 20 месяцаў ад часу, калі, пасьля маёвага перавароту, Язэп Пілсудскі стаў на чале дзяржаўнага ўраду Польшчы.

Мала таго, гэная прыхільнасьць усіх пластоў народу да асобы Маршалка Пілсудскага гавора аб вялікай грамадзкай дасьпеласьці народных масаў, каторыя пачынаюць разумець, што тыя ці іншыя недахопы, якія істнуюць дагэтуль у розных галінах нашага жыцьця, не зьяўляюцца рэзультатам нядбайнасьці ўраду Маршалка Пілсудскага аб балячках нашае зямелькі, а толькі цяжкай спадчынай бязглуздай, безгаспадарнай гаспадаркі былых шовіністычных урадаў польскай чорнай рэакцыі, разьбітай Пілсудскім на галаву ў гістарычныя дні мая 1926 году.

Разумеючы гэта, грамадзянства наша не дае послуху розным прайдзісьветам, платным агентам чырвонай Масквы, альбо іншай варожай нам чужацкай дзяржавы, якія апрануўшыся ў вопратку абаронцаў селяніна і работніка пяюць яму салодкія песьні аб раі на зямлі. Яно гоніць іх проч ад сябе, як найгоршых сваіх ворагаў. Дэмагогія і абяцанкі перасталі быць цяпер тэй лесьніцай, якая вяла ў 1922 годзе да пасольскіх мандатаў, бо народныя масы дасьпелі і перасталі быць палітычным дзіцём, якое яшчэ пяць гадоў таму назад воплескамі спатыкала кожнага крыкуна-гарлапана і аддавала свае галасы за тых, хто больш абяцаў.

Цяпер грамадзянства нашае, а асабліва сяляне сваім цьвярозым сялянскім розумам разгадалі фальш і ману шумлівых абяцанак і свае пастановы на сотнях сходаў у нашым краі, скліканых у сувязі з выбарамі, выносяць, кіруючыся мудрай народнай прыказкай: „лепшая сініца ў руцэ, чым журавель у небе".

Вось гэнай, „сініцай у руцэ" для сялян.

ства нашага і ёсьць урад Маршалка Пілсудскага, каторы папярэдняй працай сваёю дае яму гварантыю поўнага спыненьня ў будучыне ўсіх перашкод, якія ляжаць на шляху паднясьця гаспадарчага і культурнага жыцьця нашага краю і стварэньня найбольш прыхільных варункаў, для выяўленьня ўсіх творчых сіл, усяе творчае энэргіі працоўнага народу, які ў гэткіх абставінах хутка пераможа сучаснае ліха і гора, і крок за крокам, шляхам упорнай і спакойнай працы, пойдзе да лепшае долі.

Такі пагляд нашага сялянства на справу выбараў ня ёсьць пераходным. Пасьля вайны, пасьля бязупыннай перамены ўладаў у нашым краі, пасьля гаспадарчага бязладзьдзя, пасьля хістаньня грошай, нямецкіх і польскіх марак і царскіх рублёў, мільёны каторых і цяпер ляжаць яшчэ ў скрынках і чакаюць часу, пакуль іх зьядуць мышы, урэшце пасьля палітычных авантураў і правакацыяў няпрошаных апякуноў нашага сялянства, дзякуючы каторым сотні сыноў нашае вёскі запаўняюць польскія і савецкія вастрогі, сялянства нашае жадае ладу, жадае магчымасьці свабоднай, спакойнай працы і ў асобе ўраду Маршалка Пілсудскага яно бачыць тую сілу, каторая патрапіць даць гэны лад, патрапіць стварыць варункі для творчай працы і ўнясьці ўрэшце супакой у жыцьцё нашае вёскі, усьцяж каламучанае рознымі прайдзісьветамі і палітычнымі спэкулянтамі.

Вось тыя прычыны, каторыя кіруюць пастановамі сялян аддаваць пры выбарах у Сойм і Сэнат свае галасы за сьпісак № 1 і павялічваюць з кожным днём цяпер ужо многамільённы лік прыхільнікаў Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага.

---

## Яшчэ аб грамадаўцах у Б. С. С. Р.

### „Праўда аб райскім жыцьці“.

Перадавіца „Лёс грамадаўцаў у Б. С. С. Р. зьмешчаная ў № 42 „Бел. Дня“, навяла і мяне на ўспамін аб тых „спатканьнях з музыкай і сьцягамі“, якія прыпадаюць на долю наіўных, веручых у пекныя слоўцы, ня толькі грамадаўцаў, але і іншых „палітыкаў“, шукаючых схову альбо працы ў „роднай“ рэспубліцы. Хаця гэтыя ўспаміны ня ёсьць адбіткай асабістых перажываньняў, але зьяўляюцца перадачай тых праўдзівых апавяданьняў, якія прыйшлося чуць з вуснаў бедакоў, адчуўшых на сваёй скуры, „музыку і пасады“ таварышоў.

У часе прабываньня ў В-скім вастрозе, здарылася мне не аднойчы спатыкацца з вязьнем Ч., які адбываў кару 2-х гадоў. Ч. будучы замешаным у нейкай палітычнай справе ў сваім часе ўцёк да Менску, дзе спадзяваўся знайсьці прытулак і занятак. „Прытулак“ знайшоў за кратамі. Лічыўся, відаць, ня вельмі важным праступнікам, дык папаў нібы і ў ласку, бо нейкі час быў фурманом у нейкага камісара. Але Ч., відаць, урадзіўся пад шчасьлівай зоркай, бо лёс другіх яго сяброў быў зусім адменны. Шмат каму хутка прыпісвалі справы шпіанажу, шмат атрымлівалі „пасады“ на Салавецкія вастравы, больш шчасьлівыя ў Сыбір, а найшчасьлівейшыя, адпакутаваўшы колькі, а то і колькінаццаць месяцаў у „Допры“, высылаліся з паваротам у Польшчу. Затое, як апавядаў Ч., *не беларусы*, чулі сябе як у роднай хаце,—бо за пару тыдняў атрымлівалі пропускі, назначэньні, пакідалі „Допр“ і кіраваліся, куды самі хацелі. Гэта заўсёды абурала нашых бедакоў, але затое і адкрывала вочы на запраўднае аблічча „абаронцаў“ пакрыўджаных нашых братоў. Праз колькі месяцаў, „шчасьце“ пакінула і Ч.,—яго адправілі ў Польшчу.

Успливае ў памяці і яшчэ выпадак, калі адзін досыць адукаваны, інтэлігэнтны асобнік, не знаходзячы тутака працы, аднаго дня (як апавядалі яго сваякі) згінуў з дому. Родныя перш не зьвярнулі ўвагі, бо ён часта выяжджаў да другіх сваякоў. Але неўзабаве атрымалі ліст з Менску, ў якім загінуўшы сваяк апісваў сваё жыцьцё ў „багаслаўлёным краі“, а ў канцы ліста прасіў прысылаць грошы і... саланіны. Мінула яшчэ колькі месяцаў і тыя-ж сваякі атрымалі вестку ад беглеца, што ён адпраўлены на „пасаду“ ў Салоўкі на тры гады.

Вось толькі пара фактаў, якія гэтак ярка сьведчаць аб лёсе нашых бедных, лёгкаверных братоў, якія часам — ці ратуючыся ад няпрыемнасьцяў, ці шукаючы працы і заробку, кідаюцца ў абоймы гэтак выхваленага „раю“, дзе замест ганораў, пасад і працы, дастаюць пагарду, паняверку, гора і сьлёзы.

Досыць прыпамятаваць толькі лёс паважанага нашага драматурга Ф. Аляхновіча, каб не дзівавацца лёсу рэшты.

Мо' і даюцца каму гонары і пасады, але дзеля гэтага трэба мець аблічча троху ўсходняга тыпу, або быць „вялікай шышкай“ — ці інакш „своимъ человекомъ“.

Дзеля „своих людей-—милости просим“, але для шчырых беларусаў, ды яшчэ на абшарах „самастойнае“ (?) Белар. рэспублікі, — выбачайце месца няма. Дзіўная нейкая „рэспубліка“, — дзе адвечнаму гаспадару беларусу няма прытулку, зямлі і працы, бо на гэтае патрэбна быць „своим политически (чытай камуністычна) благонадёжным“, ці быць з патомкаў цара Саламона.

Няхай-жа паданыя факты, якіх можна налічыць тысячы, будуць яшчэ адной перасьцярогай дзеля нашых лёгкаверных братоў-беларусаў.

*Шчыры.*

---

**Хто ня хоча крыку, лаянкі і сваркае, але хто хоча ладу і парадку і добрага заробку, той будзе дня 4-га і 11-га сакавіка (marca) галасаваць за сьпісак № 1.**

# №1 Беларусы! №1

Пры выбарах у польскі Сойм і Сэнат, што адбудуцца 4-га і 11 сакавіка мы пастананавілі галасаваць

**за сьпісак № 1**

за той сьпісак, які ідзець на выбары пад лёзунгам **супрацоўніцтва з Урадам МАРШАЛКА ПІЛСУДСКАГА.**

Мы **галасуемо за № 1** не толькі таму, што маем даверые да асобы **МАРШАЛКА ПІЛСУДСКАГА, як насіцеля ідэі Незалежнасьці і адраджэньня Народаў,** але і з тае прычыны, што пры сучасных умовах глыбокага крызысу і развалу усіх палітычных партыяў і груп, пры ўмовах дэмаралізацыі, прадажніцтва, кар'ерызма, — **толькі адзін МАРШАЛАК ПІЛСУДСКІ патрапіць стварыць моцны, нязьменны ўрад, завесьці ў Польшчы справядлівы лад і парадак, аздаровіць нацыянальныя і соцыяльныя адносіны ў Краі і споўніць справядлівыя дамаганьні Беларускага народу ў галіне палітычнай, гаспадарчай і культурнай.**

Але мы галасуем **за № 1 яшчэ і таму, што ніводзін з 8 паданых беларускіх сьпіскаў нас не задавольніў** і ня мог задавольніць, бо ўсе гэтыя сьпіскі маюць незаслужаныя прэтэнзіі гаварыць за Беларускі Народ, вядуць дзікую, несумленную барацьбу паміж сабою, хварэюць адсутнасьцю яснае ідэі — і асьмяшаюць імя беларуса перад усім сьветам.

Большасьць гэтых сьпіскаў носяць назовы „сялянска-работніцкіх“, „працоўных“ і разьлічаны толькі на ашуканьне народу. Розьніцы ў праграмах паміж усімі гэтымі сьпіскамі даглядзець вельмі трудна — розьніца толькі ў асобах, якім вельмі пахнуць мандаты, пахнуць грошы, пахнець панскае жыцьцё і незаслужаная роля гаварыць ад імя беларускага народу ў польскім Сойме.

І вось бачачы ўсё гэта мы і пастанавілі запратэставаць проціў дзікае беларускае сваркі і дэмаралізацыі, запратэставаць проціў дэзарганізатараў і кар'ерыстых, проціў прадажніцтва і спэкуляцыі беларускім імем **і калі няма і ня можа быць створаны адзіны беларускі нацыянальны сьпісак, як знак адзінства і непадзельнасьці беларускага народу, — то ніводнага голаса не даць дэзарганізатарам, а дэманстрацыйна палажыць свае галасы**

**за № 1.**

Падаючы свае галасы **за № 1** — за супрацоўніцтва **з Урадам МАРШАЛКА ПІЛСУДСКАГА,** мы застаемся беларусамі, не адмаўляемся і не адмовімся ніколі ні ад сваіх нацыянальных ідэалаў, ні ад свае дарагое для нас беларускае культуры, ні ад сваіх справядлівых дамаганьняў.

Найбольш паважная, найбольш разумная частка сялянства пойдзець за намі і

**будзець галасаваць за № 1.**

Гэтым самым розныя кар'ерыстыя, розныя чужацкія агенты, якія напладзіліся ў нас больш, як трэба, — дастануць у карк і змушаны будуць спыніць сваю агідную, шкодную для беларускага народу працу.

**Сяляне беларусы!** Скажэце пры выбарах у Сойм сваё паважнае земляробскае слова. Скажэце ўсім палітычным спэкулянтам, усім партыям, якія гніюць і згнілі — што вы за іх галасаваць ня хочаце, а **галасуеце за моцны Урад МАРШАЛКА ПІЛСУДСКАГА, які здужае перамагчы ўсе цёмныя сілы, каторыя атручвалі жыцьцё нашага Краю, правядзець справядлівую зямельную рэформу, спыніць шовінізм і нацыянальную ненавісьць і заложыць моцны фундамант для спакойнае працы і гаспадарчага і культурнага адраджэньня краю.**

**Усе галасуйце за № 1.**

**Выканаўчы Камітэт Б. Р. Н. П.**

**Вільня, люты 1928 г.**

## Апошнія навіны з выбарнага фронту.

Што дзень атрымліваем весткі, што акцыя Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Марш. Пілсудскага агортывае найшырэйшыя слаі грамадзянства, уся лепшая частка народу выказваецца за сьпіскам № 1 — сьпіскам Марш. Пілсудскага. Між іншымі адбыліся зьезды у Сьвенцянах, Дзісьне, Вялейцы і г. д.

Зьяўляецца поўнай рэчай, што большасьць народу выкажацца за сьпіскам № 1, за сьпіскам, кандыдаты якога ня кідаюць дэмагогічных абяцанак, не абяцаюць і не раздаюць зор з неба, а запэўняюць што супрацуючы з Урадам Марш. Пілсудскага здолеюць жыцьцё дзяржавы і паасобнага грамадзяніна увясьці на нармальны шлях направы.

**Мітынг у Сьвянцянах.**

Дня 9-га лютага адбыўся мітынг у Сьвянцянах. Мітынг пачаўся а гадз. 5 па пал. у салі кінематографа „Światowid“. На мітынгу было прысутных больш чым 600 асоб. Выступалі з прамовамі Міхал Пржэвлоцкі, адв. Рачкевіч, Ч. Рагоўскі і іншыя. Прысутныя прынялі разалюцыю наступнага зьместу. Сабраныя на мітынгу 9 лютага у Сьвянцянах пастанавілі далажыць усялякіх стараньяў з мэтай дапамогі Беспартыйнаму Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Марш. Пілсудскага, і аднаголасна выказаліся за сьпіскам № 1“.

**Сьпісак № 1 ў Дзісьненскім павеце.**

На абшары Дзісьненскага павету паўсталі Камітэты Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам у наступных мясцовасьцях:

У Дзісьне, Гэрмановічах, Прозароках, Плісе, Туміловічах, Чарневічах, і Павятовы Камітэт у Глыбокім.

**У Вялейскім павеце** Камітэты паўсталі у ўсіх валасьцях.

**У Пастаўскім павеце** адбыліся мітынгі ў наступных мясцовасьцях: у Казлоўшчыне, Рыдуплі, Слабодзе, Ласіцы, Волкалаце, Груздове, Варапаеве, Лучаю, Паставах. Дунілавічах. Мельніках, Трудаполі, Бараним Рогу, Залесьсі і Петраполі. Усе сходы і мітынгі, якія адбыліся ў вышэй мянованых мясцовасьцях выказаліся за сьпісакам № 1 Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Марш. Пілсудскага.

**У Ашмянскім павеце** мітынгі адбыліся ў Смаргонях і Гальшанах.

**У Вялейскім павеце** мітынгі адбыліся ў Углях, Плячанах, Карбавічах, Празорыне і Вязыні.

## Як галасаваць?

Каб чытачы „Бел. Дня“ ведалі, як галасаваць падаем падаем наступнае.

I.

**Галасаваньне адбываецца так: выбаршчык, падышоўшы да стала, за якім сядзіць выбарная камісія, кажа сваё імя і прозьвішча. Па спраўджэньні праз сябра камісіі, які вядзе пратакол, ці імя і прозьвішча выбаршчыка ёсьць у сьпісках выбаршчыкаў, выбаршчык дастае ад камісіі адштэмпляваны канвэрт да галасаваньня, кладзе у канвэрт картку з нумаркам да галасаваньня і аддае канвэрт Старшыні Камісіі,** каторы, спраўдзіўшы штэмпэль на канвэрце і ня гледзячы ўнутры яго, укідае канвэрт да выбарнае урны (скрынкі). Адначасна сябры камісіі ў абодвух эгзэмплярах сьпіскаў выбаршчыкаў адзначаюць, што выбаршчык голас аддаў.

II.

**Галасаваньне пачынаецца а 9 гадзіне раніцай, трывае без перарыву да гадзіны 9 вечара.**

III.

**Галасаваньне адбываецца пры помачы картак да галасаваньня. Карткі да галасаваньня мусяць быць белыя. На картцы можа быць напісана толькі цыфра або словамі нумар сьпіску кандыдатаў, за які выбаршчык галасуе**

**Нумар можа быць надрукаваны або напісаны.**

---

## „Сялянская Ніва“ ізноу брэша.

„Сялянская Ніва“ ахрысьціўшая сябе органам „Беларускага Сялянскага Саюзу“ з паслам Ярэмічам і Рагуляй на чале, саюзу які істнуець сапраўды толькі на паперы, розьніцца ад усіх іншых беларускіх часопісаў непрагляднай бяздарнасьцю яе пісакаў, пісаніна каторых прыпамінае ацэненыя двойкай працы гімназістых III-яй клясы. Проста сорамна робіцца, што могуць істнаваць гэткія беларускія часопісі, што ёсьць яшчэ людзі на Беларусі, якія цярпліва могуч чытаць гэны дзіцячы лепет „Сял. Ніўскіх“ дзецянят. Каб паказаць людзям, што яны ня дзеці і даўно ўжо вышлі з пялюшак, малайцы з „Сялянскае Нівы“ лаюцца. Лаюцца так, як ня лаецца ніводная беларуская часопісь. У лаянцы яны далёка за сабою пакінулі нават розныя „Думкі“, „Праўды“ і „Працы“, якія так сама за словам у кішэню ня лезуць і для каторых моцная лаянка таксама зьяўляецца адным з найважнейшых доказаў.

Каб даказаць „сапраўдную“ беларускасьць духоўных сваіх кіраўнікоў, паміж каторымі ёсьць шмат людзей, якім мала хто на слова павера, што яны беларусы, і каторыя самі сябе нават не называюць беларусамі, а „тоже бѣларуссамі“, як, напрыклад, б. пасол Рагуля і б. сэнатар Багдановіч, малайцы з „Сялянскае Нівы“ вельмі любяць закідаць здраду і прадажнасьць беларускага народу ўсім, хто асьмеліўся думаць, а нават гаварыць, што апрача „багоў“ Ярэміча і Рагулі ёсьць яшчэ іншыя багі.

Ведама, да катэгорыі здраднікаў і прадажнікаў паміж іншымі папаў і Ф. Умястоўскі. Мы доўга маўчалі на наіўную лаянку „Сял. Ніўскіх“ пісакаў, бо каму можа шкодзіць лаянка „Сялянскае Нівы“, каторай ня толькі беларускае грамадзянства, але нават самыя духоўныя кіраўнікі яе ня чытаюць ніколі.

Але цяпер падчас выбараў, калі вёска наша так цікавіцца кожнай газэцінай, так што нават гэткія макулятурныя часопісі, як „Сял. Ніва“, і тыя той ці іншы селянін можа прачытаць, лічым патрэбным даць малайцом з „Сялянскай Нівы“ некалькі словаў адказу.

І так, паночкі, вы гаворыце, што Ф. Умястоўскі прадажніцкі здраднік Беларускага Народу.

Чаму здраднік?

З таго, што вы калісь пісалі на гэту тэму, прадажніцкім здраднікам Ф. Умястоўскі зьяўляецца дзеля таго, што: 1) ён атрымлівае грошы на „Бел. Дзень“ з цёмных крыніц, 2) што цалаваў

# Што Ўрад Маршалка Пілсудскага зрабіў для Краю.

У першым паўгодзьдзі 1926 г. дзяржаўнага даходу было 794 мільёны злотых.

**У першым паўгодзьдзі 1927 г. дзяржаўных даходаў было 1.216 мільёнаў злотых, г. зн. на 422 мільёны злотых больш, чымся ў першым паўгодзьдзі 1926 г.**

У працягу цэлага 1926 году Польшча прадала тавараў за 2.203 мільёны злотых у золаце.

**У 1927 годзе Польшча прадала тавараў за 3.140 мільёнаў злотых у золаце.**

Сярэдні штодзенцы перавоз тавараў на чугунках у 1926 годзе раўняўся 14.031 вагонаў, у 1927 годзе—16 198 вагонаў.

Да чэрвеня 1926 году ўрад выдаваў больш чым атрымліваў.

**У працягу паўтарагадовых урадаў Маршалка Пілсудскага, Урад меў на 401 мільён больш даходаў, ніж расходаў.**

**Сума гэтая, ў большасьці, была назначана ў Зямельны Банк на пазыкі землярobaў.**

Лік гадзін працы работнікаў у большых фабрыках у адным месяцы лістападзе 1926 году раўняўся 19.685.

У лістападзе 1927 г. лік гэты быў ужо на 3,334 гадзін больш і раўняўся 23.019 гадзін.

Штучных удабрэньняў ужыта ўвосень 1926 г. 296 тысяч тонаў.

**У 1927 годзе ужыта 428 тысяч тонн, значыць амаль два разы болей.**

З пададзеных вышэй цыфраў відаць, што ў 1927 годзе лепш, чым было ў 1926 годзе.

У 1928 годзе ёсьць і будзе лепш, ніж было ў 1927 годзе.

Каб было лепш мусім памагчы цяперашняму Ураду Маршалка Пілсудскага і будзем галасаваць **за яго сьпісак № 1.**

# Якія сьпіскі будуць у паасобных выбарных акругох.

## У Віленскім Округу будуць наступныя сьпіскі.

1) № 1. Беспартыйны Блёк Супрацоўніцтва з Урадам.
2) „ 2. П. П. С. (Польская Партыя Соцыялістых).
3) „ 3. Вызваленьне.
4) „ 18. Блёк Нацыянальных Меншасьцяў.
5) „ 20. Расейскае Народнае Аб'яднаньне.
6) „ 24. Каталіцка-Народовы (эндэцыя).
7) „ 33. Агульна нацыянальны жыдоўскі блёк.
8) „ 37. Солідарнасьць сялян і работнікаў.
9) „ 39. Беларускі Камітэт Сялянства і Работніцтва.
10) „ 40. Беларускае Сялянска - Работніцкае Аб'яднаньне.
11) „ 4. Жыдоўскі „Бунд".
12) „ 34. Незалежныя соцыялістыя.

Усе іншыя сьпіскі прызнаны за няважныя.

## Якія сьпіскі приступаюць да выбараў у Сьвянцянскім вокругу.

1) № 1. Беспартыйны Блёк Супрацоўніцтва з Урадам.
2) „ 2. П. П. С.
3) „ 4. Бунд.
4) „ 18. Блёк Нацыянальных Меншасьцяў.
5) „ 20. Рускае Народнае Аб'яднаньне (Маскалі).
6) „ 24. Каталіцка-Народовы Блёк (эндэцыя).
7) „ —. Сьпісак польска-літоўскі ЦІўнеліса.

Усе іншыя сьпіскі прызнаны за няважныя.

# Галасуй за № 1.

боты ў паноў і дужых гэтага сьвету і 3) што заклікаў беларускі народ да згоднага сужыцьця з усімі народамі нашага краю, ня выключаючы з гэтага ліку і тутэйшых палякоў.

Я лічу лішнім адказваць на падобныя закіды. З гэткім самым пасьпехам, я-бы мог зрабіць закід, што той ці іншы пісака з „Сял. Нівы" альбо духоўныя іх бацькі Ярэміч ці Рагуля забілі і аграбілі чалавека. Цікаўна, якія доказы яны маглі-б паказаць, што гэтага не рабілі?

І не апраўдвацца перад пісакамі з „Сял. Нівы" зьяўляецца маёй задачай, але паставіць хачу ім адно толькі пытаньне. Дапусьцім на хвіліну, што сапраўды ўсе гэныя цяжкія грахі, якія прыпісваюць мне малайцы з „Сялянскае Нівы", сапраўды ляжаць на маём чорным сумленьні, то тады я пытаю ў вас, вы, пісакі з „Сялянскае Нівы", вы Ярэмічы і Рагулі, якое моральнае права маеце вы рабіць мне гэныя закіды?

Ці-ж не на Вашых руках ляжыць пячаць прадажніцтва інтарэсаў беларускага народу за грошы, сыпаныя шчодраю рукою з кішані нямецкіх і жыдоўскіх банкіраў? Ці-ж не на вашым сумленьні ляжыць грэх цалаваньня ботаў паноў нямецкіх і жыдоўскіх банкіраў, ці-ж ня вы прадалі інтарэсы беларускага народу, атрымаўшы даляры і нямецкія маркі за галасы беларускага сялянства, каторымі яно будзе праводзіць у Сойм прадстаўнікоў жыдоўскага і нямецкага капіталу па сьпіску № 18?

Ці можа скажаце вы, што грошы з гэтых крыніцаў вы ня бралі, можа скажаце, што грошы на выдавецтва вашай нуднай, няўдалай часопісі дае Ярэміч і Рагуля з сваіх пасольскіх дыетаў, можа скажаце, што Ярэміч і Рагуля з сваіх пасольскіх дыетаў кідаюць сотні тысячаў злотых на выбарную кампанію.

Ня скажаце, бо кожны ведае, што вашы пасольскія дыеты і сякія-такія пабочныя даходы пайшлі: у Рагулі на куплю пекнага фальварачка, а ў Ярэміча на куплю прыгожага дамка ў ваколіцах Вільні. А можа скажаце вы, што на ўсе гэныя расходы дае вам грошы беларускае грамадзянства?

Не, і гэтага ня скажаце, бо гэтаму пры ўсёй вашай брахні, пры ўсёй вашай агіднай дэмагогіі, нават самы наіўны чалавек не павера.

І калі вы, прадажныя лёкаі нямецкіх і жыдоўскіх банкіраў, робіце закіды прадажнасьці іншым, у вуснах вашых гэтыя закіды робяць уражаньне лекцыі простытуткі аб вявіннасьці.

Так, паны з „Сялянскае Нівы" — вам нягожа рабіць такія закіды! *Ф. Умястоўскі.*

## Якія сьпіскі приступаюць да выбараў у Навагрудзкім Вокругу.

1) № 1. Беспартыйны Блёк Супрацоўніцтва з Урадам.
2) „ 2. П. П. С.
3) „ 3. Вызваленьне.
4) „ 4. Бунд.
5) „ 10. „Stronnictwo Chłopskie".
6) „ 20. Расейскае Народнае Аб'яднаньне (Маскалі).
7) „ 33. Агульна жыдоўскі НацыянальныБлёк.
8) „ 36. Еднасьць і Справядлівасьць.
9) „ 37. Агульна беларускі сьпісак (Паўлюкевіча).
10) „ 38. Беларускае Сялянска - Работніцкае Аб'яднаньне.
11) „ 39. Змаганьне за інтарэсы работнікаў і сялян.
12) Сьпісак Беларускага Сялянства і Работніцтва.

## Беларуская прэса з Віленскай вул.

Пасьля арыштаў грамадаўскіх павадыроў і прызнаньня Б. С.-Р. Грамады за нелегальную партыю, астаўся найважнейшы агітацыйны асяродак б. Грамады — яе орган, які выходзе дагэтуль зьмяніўшы дзесяткі назоваў.

Беларускія часопісі, выдаваныя на Віленскай вул. № 12 і друкаваныя ў друкарні Левіна на Нямецкай, заўсёды былі опозыцыйнымі да польскага ўрадовага курсу да беларусаў. Але будучы опозыцыйнымі, яны да нядаўна асталіся беларускімі па духу, а ўмелае кіраўніцтва вырабіла спэцыяльны тып гэтае беларускае опозыцыйнае прэсы.

Быў час, калі гэтая беларуская прэса з Віленскай 12 была органам усяго беларускага грамадзянства. Быў час, калі яшчэ ня так даўно ў гэтай прэсе пісалася ў прыхільным тоне аб беларускай Хадэцыі.

Гэтая-ж прэса ўвяла ў беларускае жыцьцё „тоже бѣлорусса" Рагулю і Ярэміча, у чэсьць якіх была запісана не адна старонка газэты з Віленскай 12.

Гэтая прэса друкавала соймавыя прамовы паслоў Ярэміча і Рагулі побач з прамовамі Тарашкевіча. І тады яшчэ ня былі Ярэмічы і Рагулі і другія здраднікамі. Усё гэта, аднак, зразу зьмянілася як толькі паўстала Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада.

Часопісі з Віленскай 12 пачалі паход проціў усіх тых, каго перад гэтым неаднойчы хвалілі.

Усе раптам аказаліся здраднікамі, буржуямі і прадажнымі людзьмі. Як ашалелы бык, пачалі гэтыя часопісі рваць і ніштчыць усю сваю папярэднюю работу яднаньня і гуртаваньня беларускіх культурных сілаў і будовы аднаго беларускага фронту. Чытачы на мясцох чыталі і дзіву даваліся, што такое сталася, чаму раптам толькі некаторыя беларусы бароняць інтарэсы беларускага працоўнага люду, а ўсе іншыя хочуць яго згубіць. Дзівіліся і чыталі часопісі з Віленскай, бо іншых тады ня было, апрача „Кгупісу", якая мала куды даходзіла.

Правёўшы праз пару месяцаў такую прыга-

## Калі хочаш шчасьця сабе і свайму Краю, кінь 4-га сакавіка картку з нумарком 1.

## Голас з „таго сьвету".

На ўсход ад смутнай памяці Рыскае мяжы ляжыць г. зв. Беларуская Социялістычная Савецкая Рэспубліка, створаная маскоўскім агітаддзелам III-га інтэрнацыяналу. Гэтая рэспубліка ў самым сваім назове носіць яркі доказ бальшавіцкай маны і ашуканства. Усіх социялістых у гэтай „рэспубліцы" саджаюць у падвалы Г.П.У. або ссылаюць у Салавецкую катаргу. Якая-ж яна социялістычная? Беларусы ня маюць там ніякага ўплыву на палітычнае жыцьцё краю. Няма ніводнага беларуса, б. адраджэнца, ці выехаўшага з Заходняй Беларусі, які-б займаў хоць адну пасаду палітычна-адміністрацыйнага характару. Праўда, бальшавікі ўтварылі Інбелкульт і туды „определілі", як у прытулак, усіх сьвядомых беларусаў адраджэнцаў і эмігрантаў адгэтуль. Усе інтэлектуальныя выдатныя сілы беларускія ўціснуты ў „культурную" работу беларускую, ім нават добра, пакуль што, плацяць, але да палітычнае работы ня пушчаюць. За кожным такім культурным работнікам-беларусам у Менску ходзяць шпікі-агенты Г.П.У. і сочаць, каб ён, барані Бог, не захацеў выйсьці па-за рамкі, яму адведзеныя начальствам.

Начальства-ж—усе камісары і палітрукі (палітычныя кіраўнікі) гэта чужыя беларусам людзі, агенты Масквы, падлізьнікі Сталіна і тае кумпаніі, якая кіруе Расеяй. Дзеля гэтага на шырокае жыцьцё Усходняй Беларусі маюць уплывы ўсе—маскалі, жыды, палякі, латышы і прадстаўнікі іншых народнасьцяў,—а іх у Расеі нешта 40,— але толькі не беларусы. Найбольш верныя камуністыя беларусы, як Чарнышэвіч, напр., б. сэкрэтар беларускага ЦИК'у ізаляваны ад палітычных уплываў. Чарвякоў зьяўляецца толькі фігурай на паказ і для прапаганды сярод наіўных.

Бо-ж і зразумела! Бальшавікі разагналі ўсебеларускі зьезд 1917 г., бальшавікі забараняюць сьвяткаваць угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25.III.1918 г., бальшавікі ссылаюць у катаргі беларускіх незалежнікаў. І ўсё гэта робіцца ў г. зв. „Беларускай Савецкай Рэспубліцы". Чаму? Бо бальшавікі яе выдумалі адно для прапаганды, для таго, каб мець прыхільнасьць сярод беларусаў за межамі сваіх уплываў і свае камісарска-маскоўскае дыктатуры. З такім-жа пасьпехам яны маглі-б утварыць францускую Савецкую Рэспубліку, калі-б знайшлі тысячу-другую французаў у Расеі.

Бо і дагэтуль усе беларусы западозраны ў шовінізьме і ў незалежніцкіх імкненьнях.

Сюды, да нас не даходзяць з-за ўсходняе граніцы сапраўдныя весьці аб умовах жыцьця сьвядомага беларускага грамадзянства.

таваўчую працу, часопісі з-пад „12“ абвясьцілі аб утварэньні Б. С.-Р. Грамады, якая адна толькі атрымала нібы манаполь на беларускую працу.

Толькі грамадаўскія паслы, якія перад гэтым працавалі разам з Ярэмічам, а Рагулю выбіралі старшынёю Беларускага Пасольскага Клюбу, — толькі яны раптам нейкім чарадзейскім праабражэньнем перароджаныя сталі сапраўднымі абаронцамі інтарэсаў працоўных беларускіх групаў (іншых у нас няма, бо непрацоўныя — чужыя нам нацыянальна людзі. Рэд.), а ўсе іншыя здраднікамі беларускага народу. Ізноў чытачы часопісаў з-пад „12“ дзівіліся, што гэта такое, але чыталі і звыкаліся з убіванай ім у галаву „праўдай“ аб грамадаўскіх барацьбітах за „волю і свабоду“ працоўных. Беларусы — неграмадзістыя маўчалі, думаючы, што чад „грамадаўшчыны“ міне і Тарашкевіч зразумее ўрэшце, якую процібеларускую работу вядзе. Гаварылі, што віною тут ягонае „полёнафільства“.

Тон часопісаў з-пад „12“ цяпер ізноў зьмяніўся. Яны пашлі ў выразны бок савецкай орыентацыі. Бо калі перад гэтым выхвалялі і адцэньвалі кожную праяву беларускага жыцьця ў Радавай Беларусі, але заадно крытыкавалі існуючы там маскоўскі цэнтралізм і русыфікацыйны інтэнцыі, дамагаючыся зьмены адносін польскага ўраду і грамадзянства да беларускае проблемы ў Заходняй Беларусі, то пасьля паяўленьня Грамады сталі бяз меры *толькі* хваліць усё савецкае, у беларускай і маскоўска-інтэрнацыянальнай вопратцы. Каля году без малога пялі гэтыя часопісі з Віленскай гімны ўсім савецкім пачынаньням. А беларускі вясковы паўінтэлігэнт чытаў гэтыя апісаньні бальшавіцкіх „дабрадзействаў“ для беларусаў і не беларусаў. Чытаў і пачынаў верыць. А верачы захацеў тут на месцы гэтых самых „дабрадзействаў“, або хоць лятуцеў, якім-бы чынам паехаць у Савецкую Расею, дзе так добра для беларусаў, паводле газэтных вестак з віленскай друкарні Левіна, які называе сябе „беларускім друкаром“.

Але ўсё такі чытачы лічылі прэсу з Віленскае вуліцы за беларускую ня толькі па форме, якой аказалася, але і па зьместу. Аднак, ужо ў 1926 годзе беларускага зьместу было што раз меней у артыкулах гэтае прэсы. Ужо ўгодкі 25 сакавіка не дачакаліся ўспаміну, бо ў Саветах аб гэтым акце беларускага незалежніцкага ідэалу нельга гаварыць. Ну, дык і на Віленскай незалежнасьць Беларусі стала мала моднай. Ужо ў 1927 годзе сьвяткаваньне незалежнасьці, паводле прэсы з Віленскай, сталася работаю... польскае дэфэнзывы.

Прэса з Віленскай дагаварылася да канца, стаўшы верным „пахолкам“ камуністых, сваіх апякуноў з таго боку граніцы, ці і з гэтага, з падпольля. Але і пасьля ліквідацыі Грамады яна жыве і працуе на славу дыктатуры „працоўных гушчаў“, манаполь на якія сабе прысвоіла.

Зваліўшы ў адну кучу ўсіх, хто ня мае лёкайскае псыхолёгіі, хто мае яшчэ долю крытыцызму і ў кім жыве нацыянальны беларускі ідэал — прэса гэтая ўсіх іх бэсьціць, маючы ідэалам сваім чысты камуністычны інтэрнацыянал. Пішуць там людзі, якія хочуць праехаць на Усход, для якіх увесь беларускі рух і адраджэньне народу зьяўляецца чужою справаю, бо яны прадалі яго

**Абяцаць перад выбарамі можа кожны. Але абяцанкі зьдзейсьніць могуць толькі людві з сьпіску № 1 пры супрацоуніцтве з Урадам.**

Трэба ведаць, што ўсе лісты, якія высылаюцца беларусамі адтуль заграніцу, фатаграфуюцца і цэнзуруюцца. Так-жа сама падлягае бальшавіцкай цэнзуры ўся корэспондэнцыя да Савецкай Беларусі. Грамадзяне тамтэйшыя добра гэта ведаюць і нічога дзеля гэтага ня пішуць аб тым, як блага ім жывецца, як праследуецца ўсялякі праяў незалежнае беларускае думкі. Камунізм у тысячу разоў сільней, чымся царскі рэжым, апутаў і акаваў свабодную думку і сумленьне.

Аўтор гэтых радкоў атрымаў кароткую вестку ад аднаго з выехаўшых у Менск беларускіх студэнтаў. Пішацца там:—Мы моральна перажываем страшэнна цяжкія мукі. Думаць нельга інакш, як толькі пабухарынскаму трафарэту. Асабліва цяжка тым, хто хоча верыць у Вышэйшую сілу, бо Бог выгнаны з тутэйшага жыцьця. Сумленьне, вера, чэсьць — усё гэта аб'яўлена праступным. Чуеш, як на кожным кроку бэсьцяцца ўсе гэтыя паняцьці, і нельга нічога зрабіць, бо адразу можна праслыць контр-рэвалюцыянэрам і прапасьці.

Сярод студэнтаў, беларусаў з паходжаньня, пераважаюць уніфікацыйныя русафільскія тэндэнцыі. У Беларускім Унівэрсытэце і ў другіх тутэйшых вышэйшых школах нельга вясьці беларускай усьведамляючай працы. За яўную такую працу зараз будзеш названы „шовіністым“ і „незалежнікам“, а гэта ўжо здрада. Цяжка прывыкнуць да тутэйшага жыцьця, цяжка жыць, калі ня хочаш пазбавіцца ідэалаў беларускіх. А многія разьвітваюцца з імі і прападаюць у вялікім расейскім моры. Многія выяжджаюць у Маскоўшчыну, каб менш цярпець, каб не неражываць трагэдыі, што ў „Беларускай“ Рэспубліцы нельга гаварыць і думаць пабеларуску, калі гэтыя думкі не адпавядаюць афіцыяльнай дактрыне камунізму сталінскае маркі. „Беларусь, беларусы“ усе гэтыя сьвятыя словы тут зьяўляюцца гукам бяз зьместу, вывескай адною толькі“.

Знаючы гэтага чалавека, вялікага ідэаліста, які ў слове „Беларусь“ відзеў „зьмест“, а ня толькі „форму“—прадстаўляем сабе трагэдыю яго душы. Але бальшавікі паняцьці „Бог“, „душа“, „сумленьне“ здалі даўно ў архіў.

Мы хацелі-б, каб гэты голас маладога беларускага інтэлігэнта прамовіў да сэрца і сумленьня тутэйшых беларусаў, асабліва моладзі. Хай яна задумалася-б над трагізмам свайго сябры, якому нельга думаць і гаварыць пабеларуску, ў „Беларускай Рэспубліцы“, бо гэта — шовінізм. Мо' тады ня мела-б у нас пасьпеху агітацыя камуністычных агентаў, якія атручваюць маладыя чыстыя душы маною камуністычнага раю і свабодай беларускага жыцьця ў Савецкай Беларусі.

С.

за фікцыю сусьветнае рэвалюцыі, а незалежную думку прамянялі на лёкайскае прыслужваньне і рабскую паслухмянасьць загадам з Масквы.

І такім чынам прэса з Віленскай 12 перастала служыць беларускай справе, а пільна і мэтодычна ўлівае ў галовы чытачоў разьядаючую нашае жыцьцё камуністычную атруту. Гэтая прэса вядзе далей грамадаўшчыну самага горшага гатунку і разьбівае беларускую нацыянальную работу пад Польшчай, ня прыносячы ніякай карысьці беларускай справе на Усходзе.

Згуртованыя каля гэтай прэсы з Віленскай 12 людзі выставілі пры выбарах у Сойм аж 3 сьпіскі, не дапусьцілі да вытварэньня адзінага беларускага фронту пры выбарах, бо так прыказалі ім іх апякуны. Ці-ж гэта ня здрада? Гэтыя самыя апякуны-камуністыя выступалі процій адзінага выбарнага беларускага фронту пры выбарах у 1922 г., але тады прэса з Віленскай 12 ня была яшчэ агентурай III інтэрнацыяналу.

І вось цяпер здраднікі беларускае справы ў сваёй часопісі з Віленскай 12 „Сіла Працы“ ў № 4 пішуць, што адзіны беларускі фронт пашкодзіў беларусам у 1922 г. Лёкайства, рабская псыхіка агентаў маскоўскага цэнтралізму і імпэрыялізму, гэтых разьбівачоў беларускае нацыянальнае справы, найвыразьней выяўляецца ў гэтым артыкуле „Сілы Працы“, дзе яны пішуць: „Дзякуючы злучэньню беларускіх радыкальных партыяў з беларускімі ўгадоўцамі (? Рэд.), а разам з імі і з жыдоўскай, украінскай і нямецкай буржуазіяй у вядомы „Блёк нацыянальных меншасьцяў“, ці знамянітую шаснастку — беларускія радыкальныя элементы не маглі, як належыць, выкарыстаць свае соцыяльнае праграмы, якая зьвязвалася націскам, як сваіх правых „саюзьнікаў“, гэтак і міжнародным буржуазным націскам. Заместа ярка азначанае, яскравае і зразумелае шырэйшым працоўным гушчам соцыяльнае праграмы, штучна злучаныя беларускія групіроўкі блёку самы галоўны націск рабілі на *нацыянальнае вызваленьне працоўным масам, — ды прытым яшчэ тады — мала што* **гаворачым.**“

Прынамсі, выразна. Далоў нацыянальны ідэал, далоў гуртаваньне ўсіх беларускіх сілаў. Дзяліць іх на варожыя групы, садзіць людзей у вастрогі і верна служыць маскоўскай палітыцы, апранутай у камуністычную вопратку — вось работа прэсы б. Грамады з Віленскай 12.

---

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Аб зімовай працы ў садзе.

(Гл. № 45 „Бел. Д.“).

Яшчэ зімой кожны садавод павінен клапаціцца, каб зімовы адпачынак дрэва ня быў пашкоджаны і каб к вясьне яно было-б здаровым, сільным і мела больш вільгаці і ежы.

Вясной, калі пачынае таяць сьнег, лепш, каб ён каля кожнага дрэва таяў не адразу, а паволі; тады грунт будзе мецъ большую магчымасьць утрымаць сьнегавую ваду, якая не прападае без карысьці для саду.

Дзеля гэтага зімой у цяплейшыя дні—лепш у адлігу рабіць абтоптваньне сьнегу каля кожнага дрэва, падграбаючы яго таксама і з плошчаў, якія знаходзяцца паміж гэтых дрэваў. Такім чынам, за зіму гэткае абтоптваньне і падграбаньне дае нам да вясны пад кожным дрэвам тоўсты слой сьнегу, які, дзякуючы павольнаму таяньню, дае для дрэва шмат вільгаці. Яшчэ дужа добра к канцу зімы гэты слой утоптанага сьнегу пакрываць гноем, з якога пры таяньні сьнегу будзе таксама выходзіць некаторая частка сокаў—ежы да карэньняў дрэва, а па-другое дзякуючы гэтаму гною сьнег яшчэ больш паволі таець і гэтым разам затрымлівае хутчэйшае адтайваньне самага грунту, бо чым хутчэй адтае грунт, тым раней дрэва пачынае цьвісьці і вясновыя замаразкі могуць паесьць увесь ураджай хутчэй зацьвіўшага дрэва. І ўжо вясною, пасьля поўнага адтайваньня грунту, астаўшыйся гной закопваецца ў зямлю, крыху адступіўшы ад самага сьцябла дрэва, каб ім скарысталі дробныя карэньчыкі.

Абтоптваньне сьнегу навакол дрэва мае яшчэ тое значэньне, што не дае магчымасьці для мышэй рабіць ходы да сьцябла дрэва, якія прыносяць дрэву часта вялікія шкоды.

Апрача мышэй, у зімовыя часы садовым дрэвам (яблыням, ігрушам і г. д.), асабліва маладым, прыносяць вялікія шкоды яшчэ зайцы. Лепшай абаронай ад апошніх — гэта абгародка наўкол саду высокім і шчыльным парканам; калі-ж гэта немагчыма, дык робіцца абвязка сьцёблаў калючым хворастам, яловымі лапкамі, ці лепш за ўсё абгароджваць частаколам кожнае дрэўца да вышыні 2-х арш. ад зямлі. Апрача абвязкі прадасьцерагчы маладое дрэўца ад зайцоў магчыма пры дапамозе абмазкі сьцёблаў вапнай і глінай з дабаўленьнем нафталіну (на вядро распушчанай вапны з глінай $1/2$ фунта нафталіну, але ягоўпярод трэба пераварыць з вадой, а пасьля зьмешваць з абмазкай).

Яшчэ амаль ня меншымі шкоднікамі для садовых дрэваў, апрача зайцоў і інш. зьяўляюцца так званыя гусеніцы, рабачкі і лічынкі жучкоў, якія па большай частцы зімуюць у зямлі каля каранёў, часта ў трэшчынах кары, пад імхамі на сьцёблах і г. д. Апошнія зьядаюць лісты, цьвет і некаторыя шкодзяць нават кары маладых атожылкаў.

І вось, каб пазбавіць дрэва нашага саду ад гэтых шкоднікаў, трэба абавязкова чысьціць сьцёблы ад старой патрэсканай кары, а таксама імхоў і лішаёў.

Ачыстка гэта робіцца пры дапамозе зялезных нажоў, а таксама мэталічных шчотак, дзякуючы якім, кара, мох і лішаі адстаюць і з імі разам зародкі вышэйад'значаных апівошаў. Гэткую ачыстку сьцябла патрэбна рабіць ці ўвосень, ці зімой у адлігу; пасьля гэткай ачысткі сьцябла вельмі добра яшчэ ў канцы зімы абмазваць яго вапнай пры дапамозе зробленага з мачалы пэндзаля.

Усю шуму, якая знаходзіцца пры ачыстцы дрэваў, трэба якнайхутчэй спаліць, ці вывезьці

з саду, каб гэтыя шкоднікі ізноў не пачалі пладзіцца.

Апрача вышэйазначаных шкоднікаў, на фруктавых дрэвах (на лістох, пладох і кары) выступаюць рознага тыпу грыбкі, творачы розныя плямы і г. д. Каб пазбавіцца апошніх, трэба прыгатаваць для апырскваньня гэткую жыжку: на 20 вёдраў вады бярэцца 6 — 7 фунтаў меднага купарвасу (сіняга каменя) і столькі-ж сама не адгашанай вапны. Медны купарвас спачатку разьмешваецца ў цёплай вадзе і ўліваецца ў прыгатованы цэбар, куды пасьля дабаўляюць таксама распушчаную вапну працэджваючы яе цераз ганучку; гэтую рошчыну трэба пасьля добра разбалтаць і яна лічыцца прыгатаванай для апырскваньня. Цераз гадзіны 2 — 3 ў цёплы ў канцы зімы дзень трэба апырскаць нашыя садовыя дрэвы, каб пазбавіцца ад гэткіх грыбкоў, лішаёў, моху і інш. Апырскваньне можна паўтарыць яшчэ раньняй вясной, пакуль ня выступіла лісьцьё на дрэвах. *С.*

## Аб прышчэпліваньні.

**Прышчэпліваньне на клін.** Калі дзічкі вельмі тоўстыя і ня можна іх прышчэпліваць спосабам, пададзеным у папярэдніх нумарох: „прыстасаваньнем“, то тады можна прышчэпліваць, таксама вельмі добрым, г. зв. спосабам кліновым. Прышчэпліваючы спосабам кліновым, трэба ўпярод перарэзаць крыху навукась сам дзічок і пасьля ўзяўшы галінку, якую маемся прышчапіць да гэтага дзічка, надрэзваем яго нажом, таксама крыху навукась, амаль што да паловы галінкі і зрэзваем гэтую частку ад надрэзанага месца ўніз (рыс. 1).

Апрача гэтага, пару дзічак ад найвышэйшага месца пры перарэзе канцом нажа перарэзваем уніз (рыс. 2), крыху даўжэй ад прыгатаванага клінка ў галінцы і задняга боку пры перарэре падымаем крыху кару (рыс. 3), за якую асьцярожна ўстаўляецца клінова зрэзаная галінка.

Спосаб гэты вымагае большай практыкі, але з другога боку зьяўляецца вельмі добрым пры прышчэпліваньні дзічак таўсьцейшых, дзеля таго, што рана, якая застаецца ад прышчэпліваньня, зажывае даволі скора. Абвязваюцца злучаныя месцы таксама, як і пры „прыстасаваньні“.




Прышчэпліваньне на клін.

**Кажухаваньне,** ці іншымі словамі прышчэпліваньне за кару, робіцца прыблізна ў гэтакі самы спосаб, як і пры прышчэпліваньні на клін. Розьніца палягае на тым, што ў гэтым выпадку дзічок мы перарэзваем не навукась, але прастападна да дзічка (рыс. 1), таксама прастападна да галінкі робім нарэз і ў ёй, зрэзваючы пасьля ад нарэзу на клін уніз (рыс. 2). Прышчэпліваць такім спосабам можна толькі дзічкі, якія многа таўсьцей за галінкі, якімі маемся прышчэпліваць. Кару таксама, як і пры прышчэпліваньні на клін, падрэзваем ад нарэзу ўніз і разварочваем крыху яе на абедзьве стараны, за якую пасьля трэба застаўляць прыгатаваную перад гэтым галінку.

Апошнімі двума спосабамі можна прышчэпліваць толькі ад часу, як добра адстае кара; дзеля таго, што адстае яна даволі позна, трэба да гэтага часу добра перахоўваць прыгатованыя да прышчэпліваньня галінкі. Спосаб прышчэпліваньня 3-ці ёсьць таксама дасканальным, дзеля таго, што прышчэпліваць ім можна вельмі скора і нават ад рукі не-спэцыялістага амаль што ўсе дзічкі прыжываюць.

Дзеля таго ўсе асобы, якія маюць замер вучыцца прышчэпліваць павінны распачынаць ад гэтага (трэцяга) спосабу.

Пры прышчэпліваньні дрэваў старэйшых спосабам „кажухаваньня“, можна адначасна рабіць нарэзаў, (перарэзаўшы ўпярод дзічок), некалькі (два, тры а то і чатыры) і падняўшы асьцярожна кару, залежна ад лічбы нарэзаў, столькі сама застаўляць за яе кругом галінкі.



рыс. 1. рые. 2.

*Г.*

## Як уберагчыся ад пажару.

(Гл. № 6 (46) „Белар. Дня“.)

### Першая помач пры апёках.

Часта вельмі здараецца, што людзі, тушачы пажар, альбо ратуючы свой дабытак, сваё дабро, апякаюцца агнём. Вот-жа, калі гэтакі прыпадак здарыцца, то бязумоўна, тут найлепшую першую помач мог-бы аказаць дохтар, але дзе-ж яго ўзяць на скоры час, калі ён жывець дзесьці там у мястэчку, ці ў горадзе, за 10, 15, а мо' і 20 кілёмэтраў. Самы факт паказваець, што тут трэба радзіць самым, што найболей і робяць сяляне,

ўжываючы свае хатнія лекі і свае хатнія мэдыцынскія веды. Бо-ж усім ведама, што апечанае надта моцна баліць, вот тут і патрэбна першая помач, каб гэты боль трохі паменшыць, а ў дадатку, каб ня даць апечанаму месцу разгнівацца. Гэтая-ж першая помач і гэтыя лекі — такія: на апечанае месца прыкладаецца адразу-ж крахмал, дзёртая бульба, альбо мажацца посным, ці дзеравяным чыстым алеем; пасьля гэтага пасыпаецца тоўстым слоем вугольнага (зробленага з патоўчаных вугольляў) парашку і абвязваецца гэта чысьценькаю анучачкаю, альбо ватаю. Боль пры гэтых леках надта хутка сьціхаець і гэтым-жа папярэджваецца стварэньне вадзянікоў. Калі-ж вадзянікі ўжо стварыліся, то іх трэба *асьцярожна* праколоць, не разрэзваючы скуркі, бо разрэзаўшы скурку мы можам зрабіць ранку разрэзам, а гэта грозіць заражэньнем крыві. Пры новым болі, пасьля таго, як мы ўжо рану абмазалі і абвязалі, трэба зьняць павязку, ня зьнімаючы старога слою вугольнага парашку, пасыпаць новым сьвежым вугольным парашком і йзноў абвязаць. Добра гэтак сама скарочваець боль і гоіць мешаніна, зробленая з сталовае лыжкі не салёнага каровінага масла і аднага яечнага жаўтка. Гэтак сама добра гоіць раны сок, які мы атрымоўваем, топячы аж да вугальля курыны жаўток.

Аб адным трэба памятаць пры апёках, што іх ніколі ня трэба з мэтаю лячэньня паліваць вадою, альбо мазаць газаю.

### Ратаваньне жывёлы.

Дзеля таго, каб вывясьці з ахопленае агнём будыніны коні, рагатую жывёліну і оўцы, трэба зрабіць наступнае: на каня ўзлажыць хамут, альбо сесьці на яго конна. Карову альбо вала трэба ўзяць адною рукою за рог, а другою трымаць перад носам жменю гною. Каб выгнаць оўцы, трэба вынясьці на двор галоўнага барана, тады за ім пайдуць усе авечкі. Выпаўняючы ўсё вышэйсказанае, трэба старацца, каб не падымаць вялікага крыку, бо гэты крык, трэск пажару і яго сьвятло найболей палохае жывёлу.

*Гаспадар.*

---

## Як выгадаваць раньнюю бульбу?

Раньняя бульба вельмі дарагая. Чым раней выгадаваць бульбу, тым большы даход даець яна гаспадару.

Каб меці гэты даход з бульбы, трэба садзіць яе яшчэ ў лютым. Робіцца гэта так. Ужо ў месяцы лютым кладзем бульбу, выбраўшы раньнейкі сорт, у няглыбокія скрынкі. Укладваем у два пласты на агароднай зямлі ў гэтых скрынках. Скрынкі трымаць трэба ў цёплым месцы ў хаце, ў відным месцы, куды-б даходзілі праменьні сонца. Пакрытую зямлёю бульбу ў гэтых скрынках трэба паліваць час ад часу вадою. Бульбу трымаем у скрынках датуль, аж пакуль не пацяплее на дварэ і ўжо ня могуць ёй шкодзіць начныя прымаразкі.

Бульба ў скрынках пушчае кароткія, але тоўстыя расткі ўверх, а зьнізу вырастаюць як-бы барадаўкі. Калі ўжо ночы пацяплеюць і прымаразкаў ня бывае, трэба вынясьці бульбу з скрынак і перасадзіць у гарод у градкі так, каб не абламаць расткоў, расткамі дагары. Бульбу перасаджаную трэба абсыпаць лёгка зямлёю. У вільготнай агароднай зямлі перасаджаная са скрынкі бульба хутка пачынае расьці. З барадаўкі выходзе корань, а расткі разьвіваюцца ў цёмна-зялёнае лісьцьцё. Гэта адзін спосаб раньняга саджэньня бульбы.

Другі спосаб. Рана дасьпяваючы сорт бульбы садзім якнайраней у градкі ў такім месцы, куды не даходзяць марозныя халодныя вясеньнія ветры: паміж дрэвамі, будынкамі або густымі платамі. Садзім глыбока на 20 см. і прыкрываем зямлёю, каб не пашкодзілі бульбе начныя прымаразкі. Пры гэтым спосабе атрымаем рана бульбу, але яна будзе невялічкай, дзеля таго, што глыбокая была пасадка.

Трэці спосаб. Замест таго, каб садзіць бульбу глыбока на 20 см. у зямлю, садзім мелка см. 8—10, але забясьпечваем ад маразоў слоем конскага гною. Гной гэты, як бульба ўзойдзе, перакопваем зямлёю. Гэта найлепшы спосаб. Пры такой пасадцы атрымліваем добры ўраджай.

Чацьвёрты спосаб. Пры гэтым спосабе трэба загадзя помніць аб прыгатаваньні бульбы раньняга ўраджаю. Робіцца гэта такім спосабам, што вясною адбіраем здаровую бульбу і перахоўваем яе аж да месяца жніўня. У жніўні садзім яе у градкі трохі глыбей, на 15 см. Так пасаджаная бульба ўзойдзе ўжо ўвосень. Перад зімою накрываем гэтую ўзыйшоўшую бульбу тонкім слоем саломы, а з прыбліжэньнем халадоў і прымаразкаў—слоем конскага гною. Гэты слой, па меры ўзмацненьня холаду, павялічваем да таўшчыні 20 см. і ён не дапусьціць да змарожаньня бульбы. Гэтак перахованы ўсход бульбы, які пад гноем перазімуе, адкрываем вясною. Адкрытая пачне хутка расьці і ўжо ў маі можам меці сьвежую „новую“ бульбу, якая тады высока цэніцца ў гарадох. Выкапаўшы бульбу, на яе месцы можна садзіць гароднiну. І пры гэтым спосабе градкі трэба выбіраць у месцы, заслоненым ад халодных зімовых вятроў.

(„*Tygodnik Rolniczy*“).

---

## Аб непадзельнасьці малых гаспадарак.

Міністэрства Аграрных Рэформаў приступіла да апрацоўкі закону, мэта якога абмежаваць падзел дробных гаспадарак. Паводле апрацоўваных Міністэрствам асноваў, Рада Міністраў, на прапазыцыю Міністра Зямельных Рэформаў, установіць для паасобных ваколіцаў дзяржавы неадзоўна патрэбны абшар адной гаспадаркі, якая пазваляла-б утрымацца сярэдняй сям'і і давала-б магчымасьць выкарыстаньня працы. На меншыя за гэтыя нормы гаспадарак дзяліць ня можна было-б.

Большая гаспадарка, ня большая аднак, як 20 гэктараў (у Беластоцкім ваяв. 35 гэктараў) можа быць прызнана непадзельна тады толькі: 1) калі зажадае гэтага ўласьнік за жыцьця або зробіць адпаведную засьцярогу ў тэстамэнце; 2) калі адзін з насьледнікаў за жыцьця або па сьмерці ўласьніка зажадае ўтрымаць цэлую гаспадарку пад варункам, што сплаціць іншым насьледнікам.

Пажаданьне насьледніка ўтрымаць цэлую гаспадарку не вырашае справы, хто будзе ўлась-

нікам гаспадаркі. Ацэнка непадзельнай гаспадаркі дзеля акрэсьленьня высокасьці сплатаў сям'і не адбывалася-б на падставе цаны данай гаспадаркі, якая ёсьць у гэтым часе ў ваколіцы, але на падставе даходнай вартасьці гаспадаркі, бяручы пад увагу даўгі гаспадаркі.

Пяршынство на атрыманьне гаспадаркі мае насьледнік з тэстамэнту, а калі тэстамэнт ня зроблены, дык той, хто, паводле мясцовага звычаю, павінен атрымаць гаспадарку, а калі і звычаяў падобных няма, то гаспадарку атрымлівае найбольш да гэтага здольны. У выпадку спрэчкі, пастанаўляе суд.

Асновы, на якіх Міністэрства Аграрных Рэформаў апірае ўспомнены закон, перасланы земляробскім арганізацыям.

Дзеля таго, што справа гэта вельмі важная, Цэнтральны Саюз Земляробскіх Гурткоў, разаслаў анкеты да некаторых гаспадароў, пытаючыся іх рады.

# Апошнія навіны.

**Літва.** 16-га лютага г. г. мінула 10 гадоў ад дня абвешчаньня Незалежнасьці Літвы. Уся Ковенская Літва сьвяткавала гэты дзень вельмі ўрачыста. Прэзыдэнт Смэтона выдаў адозву да народу, ў якой прызывае ўсіх Літоўцаў да еднасьці і згоды, без чаго нельга будзе ўтрымаць незалежнасьці. У адозве гаворыць пр. Смэтона аб тым, што Вільня дагэтуль не належыць да Літвы.

У зьвязку з успамінам аб Вільні літоўскія гаспадарчыя кругі, якія імкнуцца да навязаньня гандлёвых зносінаў з Польшчай, высказваюць сваё наздаваленьне, дзеля таго, што адозва ўтрудняе распачацьце польска-літоўскіх перагавораў.

Польскі міністар замежных справаў ізноў выслаў у Коўна ноту, ў якой прапануе прыступіць да распачацьця польска-літоўскіх перагавораў.

Нота не вядзе палемікі з пасланьнем Вальдэмараса, а толькі ўказвае на забавязаньне прэм'ера Літвы, данае ў Жэнэве аб прыступленьні да перагавораў з Польшчай.

**С. С. С, Р.** Замежны гандаль Расеі, які знаходзіцца ў руках ураду, г. зв. Внешторгу, прыносіць толькі страту. Заўсёды ўвозілася больш тавараў у С. С. С. Р., чымся вывозілася. Расея галоўным чынам вывозіла жыта, цяпер аказалася, што С. С. С. Р. ня можа вывесьці хлеба за граніцу, бо яго няма на патрэбы ў краі. Маюць закупіць хлеб для С. С. С. Р. у Амэрыцы.

А ў зьвязку з гэтым замежны гандаль мае быць аддаены ў прыватныя рукі. Як відзім, камунізм падае ў С. С. С. Р.

Як падаюць газэты, ў войску Савецкім нарастае нездаваленьне з бальшавікоў. Бальшавікі аб'явілі рэестрацыю ўсіх афіцэраў б. царскае арміі, якія дагэтуль ня мелі права служыць у войску.

Ліга Народаў высказала запросіны бальшавікоў да Дарадчага Эканамічнага Камітэту пры Лізе Народаў, але Камуністычны Урад адмовіўся выслаць туды сваіх прадстаўнікаў.

1

1

1

1

# ПІСЬМЫ Ў РЭДАКЦЫЮ.

Паважаны Грам. Рэдактар!

Прашу надрукаваць наступнае: У номары 10 з 28.I.28 „Сялянскае Нівы“ надрукована аба мне пісулька з Лужак пад назовам „Не магу маўчаць“ і падпісана нейкім „Выбаршчыкам“. У гэтай пісульцы робяцца мне закіды, што я хачу быць паслом, каб нічога не рабіць і што я дагэтуль нічога не зрабіў для братоў-беларусаў.

Вось-жа заяўляю для шырокага ведама грамадзянства, што паслом быць нават ня меў у думцы, а што вёў і буду весьці працу для адраджэньня братоў-беларусаў у галіне культурна-гаспадарчай і надалей поступам зусім лёяльным і думаю, што гэтая мая праца ў шырокіх сялянскіх масах ёсьць ведама.

Хай-жа гэты пан „Выбаршчык“, калі ня брэша, скінець маску і пакажа народу сябе і сваю працу. Можа гэтая праца і ёсьць, але паказаць яе „Выбаршчык“ з падпольля не адважыцца нават у перадвыбарны час.

Дык чаго-ж хавацца за сьценку?

2.II.28 г. Янка Тарыкаў.

---

Да Пана Старшыні Ц. В. К. Б. Р. Н. Партыі.

Чытаючы газэту „Kurjer Wileński“ з дня 5.II.28 у ст. „Wiadomości przedwyborcze“, на сьпіску агульнабеларускім у Сойм і Сэнат на вокр. Наваградзкі, між іншымі кандыдатамі знайшоў я і сваё імя і прозьвішча. Вельмі мяне гэта зьдзівіла, што я там фігурую, **паміма майго ведама і згоды, якое я ня мог-бы даць ні ў якім выпадку, бо зьяўляюся сябрам Ц. В. Кам. Б. Р. Н, Партыі і сябрам Ур. Кр. Нар. Саюзу Літ.-Бел. Зем. „Аб'яднаньне“.**

Каб ня быць кепска зразумелым у Партыі, да якое я фактычна належу, прашу гэную маю заяву прыняць і надрукаваць.

З пашанаю **Міхась Канчук,**
сябра Ц. В. К. Б. Р. Н. Партыі.

Любча, 7.II.28 г.

---

## Папраўка.

У папярэднім (6-м) нумары нашае газэты ў артыкуле „Яшчэ аб **„Нашай Долі“**, дапушчана прыкрая карэктурная памылка:

Першы абзац з самага пачатку,—замест надрукованага ў № 6 (46), павінен выглядаць гэтак:

На артыкул „Праўда аб рэдагаваньні „Нашай Долі“, зьмешчаны ў № 40 „Бел. Дня“, ў якім я пазволіў сабе ў належным асьвятленьні нарысаваць фігуру „знамянітага“ беларускага гісторыграфа і бібліофіля інжынера Р. Земкевіча, гэнага сучаснага Брянцева гісторыі беларускага адраджэнскага руху, адказвае ў „Думцы Працы“ нікому няведамы пан Саўка Барывой.

---

**Усім падпісчыкам, якія парупіліся прыслаць падпісныя грошы за 3 месяцы, Адміністрацыя „Беларускага Дня“ выслала, як бясплатны дадатак, брашуру агр. Я. Пачопкі „ЯК ВЫБРАЦЬ ДОБРАГА КАНЯ“.**

---

## Абвестка.

Віленскі Аддзел Саюзу быўшых палітычных вязьняў падае да ведама, што 19 лютага г. г. а 7 гад. ў вечары ў салі Гандлёвага Клюбу, вул. Міцкевіча 33-а будзе зладжаны канцэрт на карысьць сяброў Саюзу, якія ў барацьбе за свабоду перанясьлі турмы і ссылку і вярнуліся з катаргі няздольнымі да працы бяз сродкаў да жыцьця.

У вакальнай часьці канцэрту будуць выпаўнены нумары ў польскай, расейскай, беларускай, літоўскай і жыдоўскай мовах.

Грамадзяне, памажэце б. палітычным вязьням!

За Управу Саюзу б. п. в.
(—) *Рымсевіч.*

---

Адказны Рэдактар і выдавец **Ф. Умястоўскі.**